

№ 7 (168)
Люты 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



З Днём Роднай мовы!
Мова – гэта адзінае, што дапаможа згуртаваць нас у непаўторную ў свеце дзяржаву.

*"Мая мова не знае змярканняў*
*Ад маленства да старасці лет..."*

## «Новая зямля» ва Украіне

Прыемная звестка прыйшла з Кіева: там, у шанавітым выдавецтве «Українськй письменник», нядаўна пабачыў свет шэдэўр беларускай эпічна-лірычнай паэзіі – раман у вершах «Новая зямля» Якуба Коласа ў сувязі з яго 125-годдзем. Твор на ўкраінскую мову пераклаў сябра ўкраінскага і беларускага творчых саюзаў Валеры Стралко. Прадмову напісаў вядомы беларускі паэт Анатоль Вярцінскі, пасляслоўе – літаратуразнаўца Язэп Янушкевіч.




Выданне выйшла накладам 5 тысяч экземпляраў. Знаёмства з ім адбылося 8 лютага на Міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы «Кнігі Беларусі – 2007», дзе ўпершыню Украіна паўдзельнічала як ганаровы госць.

На прэзентацыі, якая адбылася 8 лютага на выставе-кірмашы, прагучалі ўрыўкі з «Новай зямлі» на беларускай мове ў выкананні сына Якуба Коласа Міхася Міцкевіча і на ўкраінскай – вуснамі перакладчыка.

## Паломніцтва з Амерыкі ў Беларусь

*У верасні 2005 года нашу краіну наведаў незвычайны турыст са Злучаных Штатаў Амерыкі, а ў сакавіку 2006 года гэты чалавек апублікаваў у інтэрнэце свае запісы і фотаздымкі з той паездкі, назваўшы іх «A Journey to Belarus» («Падарожжа ў Беларусь»). Прачытаць нататкі цалкам і пабачыць фотаздымкі можна па адрасе http://www.jewishgen.org/Belarus/newsletter/TolochinTrip.htm.*

*Але паколькі не кожны мае доступ у сусветную сетку і добрыя веды па англійскай мове, то ніжэй прапанаваны кароткі выклад «Падарожжа...», якое я, аўтар гэтага артыкула, выпадкова знайшоў, проста дзеля цікавасці ўвёўшы назву «Belarus» у пошукавае акенца аднаго з англамоўных інтэрнэт-парталаў.*


*(Заканчэнне на стар. 7)*




## У вырай — па шчасце?



Не ўсе імкнуцца знайсці шчасце-долю ў далёкіх, цёплых краінах. Вядома, прасцей паляцець у вырай. Няхай шлях будзе складаным, але потым чакае лагоднае сонейка, цікавыя, неспазнаныя мясціны, а колькі ежы... А што тут? Толькі снег ды мароз, ці яшчэ горш — брыдкая слота.

Аднак гэта пужае не ўсіх. Некаторыя лічаць, што шчасце ёсць і на роднай зямельцы. Тут можна цэлы дзень гойсаць па лесе ці парку, пералятаць з галіны на галіну, корпацца пад апалым лісцем. Глядзі — і наб'ешся поўны страўнік. А тады ўжо ўсё роўна, ці заморскае гэта насенне, апетытныя жучкі ды чарвячкі, ці нешта тутэйшае... Калі ж прыйдуць моцныя маразы і снег, можна падляцець да чалавечага жылля. Там табе і розныя семкі. А колькі гатункаў хлеба, не толькі чорнага, але і белага! Бывае, пашчасціць патрапіць і на сала.

Таму застаюцца на радзіме ў тым ліку і крылатыя: сінічкі, вераб'і, каўкі, шэрыя вароны, качкі, лебедзі-шыпуны, сойкі. Не адлятаюць восенню, як іншыя, не шукаюць недзе нейкага шчасця. Ды і ці там яно? А родная прырода, якая многім не падабаецца, якую не хочуць спазнаць, шукаючы розныя апраўданні, пра ўсіх турбуецца, шчыра ўсіх любіць. Нават нягледзячы на абыякавасць. Яна заўсёды ўратуе ад голаду. Не дасць замерзнуць. Глядзі, і зімою пашле цёплыя дзянькі.

*Ігар ГРЭЧКА,*
*фота аўтара*





# Трэцяя кніга з серыі «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў»

9 лютага 2007 года ў Беларускім дзяржаўным інстытуце праблем культуры адбылася прэзентацыя анталогіі «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. Гродзенскае Панямонне» (у 2-х кнігах, аб'ём 109 друкаваных аркушаў). Гэтая кніга – трэцяя з шасцітомнай навукова-папулярнай серыі, мэта якой даць разгорнуты паказ сучаснага стану народнай мастацкай культуры ў кожным з шасці гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі. Адметнасць выдання ў тым, што яно ўключае матэрыялы экспедыцыйных даследаванняў (1999–2002), якія даюць комплекснае ўяўленне пра стан жывой беларускай традыцыі напрыканцы XX стагоддзя: абрады, песні, інструментальную музыку, танцавальны фальклор, гульні, народны касцюм, народны тэкстыль. Гэта праца – вынік даследаванняў лабараторыі традыцыйнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры.

Кнігі тома выйшлі ў выдавецтве «Вышэйшая школа», багата ілюстраваныя фотаграфічным, нотным матэрыялам, мастацкімі малюнкамі.

Як заўсёды гэта адбываецца ў Інстытуце, прэзентацыя прайшла цікава па змесце і прыгожа па мастацкім афармленні. Прадстаўляў выданне сваёй вобласці нядаўна прызначаны на пасаду начальніка ўпраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Лойка, а разам з ім народны гурт з вёскі Погіры Дзятлаўскага раёна.

Што да самой прэзентацыі, то адкрыла гаворку пра кнігу, прысвечаную Панямонню, рэктар Інстытута праблем культуры Ірына Багачова, вяла ўвесь рэй галоўны стваральнік выдання Тамара Варфаламеева, выступалі тыя, хто прымаў удзел у зборы, апрацоўцы матэрыялаў, выдаўцы, навукоўцы, доктар філасофіі Уладзімір Конан, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп.

Усе выступоўцы падкрэслілі, што выхад анталогіі «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. Гродзенскае Панямонне» – гэта сапраўдная з'ява ў культурным жыцці краіны. Пажадалі калектыву лабараторыі традыцыйнага мастацтва Інстытута плёну ў даследаванні і стварэнні чарговага тома анталогіі, прысвечанага Брэсцкай вобласці.

***Наш кар.***




***Каталіцкі і праваслаўны крыжы побач (у Ашмянскім раёне) і вокладка кнігі***

## У тэатры «Зьніч»

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» **22 лютага а 19 гадзіне** запрашае гледачоў на музычна-паэтычны монаспектакль **«Пачакай, сонца»**. Аўтар інсцэніроўкі і выканаўца сонечнага дзейства – Галіна Дзягілева, музыку да яго напісаў Алег Залётнеў.

На **26 лютага** маркуецца прэм'ера **«Падарожжа дылетанта да Якуба Коласа»**. Як бачна з назвы пастаноўкі, выканаўца яе – артыст Юрый Жыгамонт, вядомы па цыкле тэлеперадач «Падарожжа дылетанта».

Удзень таго ж **26 лютага** Раіса Астрадзінава маленькіх гледачоў запрашае на монаспектакль **«Маленькі анёлак»**. Гэта філасофская казка Сяргея Кавалёва паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштоль. Галоўны герой, маленькі анёлак, спускаецца з нябёсаў, каб знайсці самую няшчасную жывёліну на Зямлі...

**21 лютага** тэатр «Зьніч» запросіць гледачоў у Вялікую залу Беларускай дзяржаўнай філармоніі. А 19 гадзіне народны артыст СССР Фёдар Шмакаў запрашае на **«Плошчу перамогі»**, трагікамедыю ў 2 дзеях (паводле п'есы Алены Паповай). Пастаноўка прысвечана 80-годдзю Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах 231-75-53, 615-26-79, 615-28-99.



*Ю. Жыгамонт*

## Царкоўнае краязнаўства

***Адным са старэйшых помнікаў нашым продкам у Лепелі з'яўляецца Георгіеўскія могілкі, размешчаныя на востраве паміж азёрамі Лепельскім і Проша, ракой Эсай і штучна пракапаным у XIX стагоддзі Першым лепельскім каналам былой Бярэзінскай воднай сістэмы. У традыцыйных светаўяўленнях хрысціян могілкі лічацца святым месцам спачыну чалавечых цел. І месца для пахаванняў выбрана ўдала: на сухім пагорку са стромкімі краямі, з пясчаным і супясчаным грунтам. Пры гэтым было захавана і тагачаснае заканадаўства. У XIX стагоддзі забаранялася (у сувязі з масавымі эпідэміямі, асабліва халеры) размяшчаць могілкі бліжэй чым за 100 сажняў (213 метраў) ад суседняга жылля ў горадзе.***

# На Георгіеўскіх могілках

З архіўных дакументаў вядома, што спрадвеку на могільніку існавала драўляная Георгіеўская царква, пабудаваная ў імя святога Георгія Пераможцы. Шматлікія лепельскія храмы будаваліся і будуюцца ў выглядзе карабля або крыжа. У старажытнасці яны мелі яшчэ форму зоркі ці круга. Карабель нагадвае, што царква з'яўляецца суднам, на якім ратуюцца вернікі ў жыццёвым моры. Круглая форма ёсць сімвал бясконцасці. А форма зоркі, быццам начны ўказальнік, дапамагае чалавеку ісці шляхам праўды. У хрысціянскай рэлігіі лічыцца, што малітва ёсць гутарка з Богам, і царкоўнае богаслужэнне найбольш адпавядае духоўным патрэбам вернікаў.

Новая каменная Георгіеўская царква пабудавана побач з былой драўлянай і асвечана ў 1900 годзе протаіерэем (старшым па званні святаром) І.М. Даўгялам. Праз два гады ён пайшоў з жыцця і пахаваны за 20 метраў ад царквы. Па словах сына, вядомага беларускага гісторыка, архівіста Дзмітрыя Даўгялы, яго бацька быў паважаным у горадзе чалавекам, які шмат зрабіў па рамонце храмаў, па добрапарадкаванні тэрыторый пахаванняў, па кіраўніцтве царкоўнапрыходскімі школамі павета. На магіле бацькі ўстаноўлены помнік з чорнага мармуру з надпісам:

*«Тут спачывае*
*ў міры протаіерэй*
*ІААН МАКСІМІЛІЯНАВІЧ ДАЎГЯЛА*
*Памёр 3 лютага 1902 г.*
*на 56-ым годзе жыцця»*

Сярод шматлікіх пахаванняў дзесьці знаходзіцца магіла Людвіка Адама Дзям'янавіча Юцэвіча, былога выкладчыка гісторыі і геаграфіі Лепельскага дваранскага вучылішча. Вядомы літоўскі і беларускі этнограф, фалькларыст, пісьменнік нарадзіўся ў Літве ў 1813 годзе, скончыў Віленскую епархіяльную рымска-каталіцкую семінарыю, пяць гадоў працаваў ксяндзом у касцёлах. Але ў яго душы адбыўся пераварот: ён перайшоў у праваслаўе, ажаніўся. Прыехаўшы ў Беларусь, ён у 1843 годзе ў Лепелі атрымаў пасаду выкладчыка вучылішча. Адначасова даследаваў тут побыт мясцовага насельніцтва, збіраў фальклор.

Памёр Л.А. Юцэвіч 12 сакавіка 1846 года. І ўрачыста пахаваны на Георгіеўскіх могілках. Можа, яго магіла знаходзіцца за два дзесяткі метраў ад былых скляпенняў старой драўлянай, даўно разабранай Георгіеўскай царквы і за шэсць метраў ад сучаснай? Тут побач са старадаўняй, развесістай берлінскай таполяй захаваўся вялікі металічны надмагільны крыж вышынёй каля 1,5 метра арыгінальнай формы. Выкананы ён з брусоў таўшчынёй 2 см, шырынёй 15 см з выгравіраванымі ўзорамі на канцах і на перакрыжаванні. Гэты крыж своеасаблівай канфігурацыі сфатаграфаваны лепельскім фатографам Мікалаем Другаковым у 1992 годзе разам з іншымі старажытнымі каменнымі і металічнымі крыжамі, надмагільнымі плітамі, бардзюрамі, агароджамі. Такія здымкі ўяўляюць пэўную каштоўнасць для гісторыі нашага краю, з'яўляюцца часткай фотатэкі старажытнасцяў Беларусі (захоўваюцца ў Лепельскім краязнаўчым музеі).

Зараз Георгіеўскія могілкі з усіх бакоў абнесены драўляным плотам. Цікава, што да нашых дзён дзе-нідзе захаваліся фрагменты часткі агароджы 1893 года, што мацавалася паміж цаглянымі слупамі высокай якасці. Прыняты меры для аховы пахаванняў ад размыву вадой з паўночнага боку. З гэтай мэтай уздоўж могілак устаноўлены трывалыя жалезабетонныя пліты, аб якія з лёгкасцю разбіваюцца азёрныя хвалі. Заўважальна за апошнія гады зменшыўся стан забруджанасці прыбярэжнай паласы суседняга возера буйнымі металічнымі, драўлянымі і іншымі прадметамі бытавых адыходаў.

Кожны чалавек у канцы жыццёвага шляху знаходзіць свой прыпынак, вечны прытулак, на могілках. Гэтае святое месца нашых продкаў трэба шанаваць і аберагаць. Дагледжаныя могілкі з'яўляюцца месцам наведвання не толькі родзічамі, знаёмымі, але могуць стаць прывабным для гасцей і турыстаў з іншых краёў.

*Ілья ЯНУШ,*
*краязнавец,*
*г. Лепель*



***Георгіеўскія могілкі: царква і помнік І. Даўгялу***

**Ад рэдакцыі.** *Шаноўны Ілья! Шчыра дзякуем за ліст, які з'яўляецца добрай падтрымкай пазіцыі нашай газеты. У кожным паселішчы ёсць такое месца, якое павінна быць самым прыбраным, самым ушанаваным людзьмі – месца вечнага спачыну нашых продкаў. Гэта найкаштоўны помнік паселішча.*

*На жаль, нашы пасланцы ў вышэйшы заканадаўчы орган яшчэ не дайшлі да такога разумення. Маю права так сказаць, бо ўжо даўно ва ўсіх цывілізаваных грамадствах створаны законы аб пахаваннях (могілках), якія рэгулююць юрыдычныя нормы гаспадарчага, гістарычнага, эстэтычнага, прыроднага права існавання могілак. Па нашым глыбокім перакананні, ахова гэтых помнікаў павінна рэгулявацца дзяржаваю, а не масцовымі выканаўчымі органамі.*

*Уладзімір ГІЛЕП*







# Падарожжа ў Прылукі

*Лукамль, Лучын, Лукская... Паводле тапанімічнага слоўніка беларускага географа В.А. Жучкевіча, назва гэтых населеных пунктаў Беларусі паходзіць ад старажытнаславянскага слова «лука» (г.зн., на луцэ ракі). Тое ж тычыцца і назвы пасёлка Прылукі, які знаходзіцца ў Мінскім раёне. Паводле дадзеных археолагаў, паселішча размешчана на левым беразе р. Пціч, узнікла ў X–XII стст.*

Добра вядома, што старажытны шлях «з вараг у грэкі» пралягаў па Дняпры, а далей, па Прыпяці і яе прытоку р. Пціч, праходзіла адгалінаванне шляху, і Прылукі якраз знаходзіліся на ім. Мясцовыя жыхары і сёння на водмелях ракі знаходзяць візантыйскія і іншыя старадаўнія манеты, фрагменты керамікі, што сведчыць на карысць гэтага меркавання. Першае ўпамінанне аб Прылуках адносіцца да 1473 г. У тыя часы тут быў маёнтак князя Яўлашкі Цяляціны, пра якога, на жаль, гісторыкі маюць мала звестак. У больш познія часы Прылукамі валодалі пісары ВКЛ Любічы, намеснік мінскі Есьман і іншыя. У XVII ст. Ганна Агінская з дазволу кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы заснавала тут праваслаўны мужчынскі манастыр, які разам з землямі перадала ў карыстанне манахам. Затым мінскі стараста Іваноўскі адабраў у манахаў зямлю, разбурыў манастыр, на яго месцы пабудаваў палац, у якім пасяліў сваю дачку.

Існуюць легенды, што ў палацы, пабудаваным Іваноўскім на месцы манастыра, блукалі здані і, вядома, палохалі гаспадароў. Аб гэтым паведаміў у сваёй баладзе аб «зачараваным палацы» паэт XIX ст. А. Адынец.

Ад Іваноўскіх па жаночай лініі Прылукі перайшлі да маршалка Францішка Аштарпа. Яго дачка Людміла выйшла замуж за мінскага маршалка, вядомага агранома Антона Чорвата.

Калі я ўпершыню наведаў Прылукі, мяне вельмі ўразіла маляўнічасць гэтых мясцін: узгорысты рэльеф мясцовасці ў спалучэнні са звілістай Пціччу, хвойнымі лясамі ствараюць непаўторны пейзаж. Так, шляхта ў тыя часы ўмела выбіраць прыгожыя мясціны для сваіх маёнткаў.

Чарговы гаспадар А. Горварт надаў сядзібе новы выгляд. Пры ім было пабудавана больш за 20 каменных дамоў, палац перабудаваны ў стылі рамантызму. Былі млын, аранжарэя, свіран, прамысловая зона, развівалася сельская гаспадарка (гаспадар быў выдатным аграномам). Стары тэрасны парк быў ператвораны ў больш модны на той час пейзажны. Тады ж, пры Горварце, у Прылуках была пабудавана мураваная царква Прасвятой Багародзіцы. Царква дзейнічае і цяпер. У 60-я гады XIX ст. у выніку вялікага пажару палац згарэў.

А. Горварт быў патрыётам сваёй Беларусі і актыўным удзельнікам нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863–1864 гг. Магчыма, вялікі пажар быў помстай царскіх улад за яго ўдзел у паўстанні. У 1872 г. сядзібу са згарэлым палацам выкупіў у А. Горварта граф Эмерык фон Гутэн-Чапскі, пра якога быў артыкул у «Краязнаўчай газеце» (№ 42 за 2006 г.). Эмерык Чапскі, які ў той час ужо валодаў Станькаўскай сядзібай, адразу ж заняўся аднаўленнем Прылук. Сумесна з Горвартам, які стаў у яго аграномам, быў адноўлены і ўпарадкаваны парк, перабудаваны пасля пажару палац, пабудаваны бровар, спіртзавод, свіран, флігель, ставы. На старажытным шляху Мінск–Наваградак дзейнічала станцыя, а пры шляху заезны двор і карчма.

*(Заканчэнне на стар. 7)*



## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*

**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**«УВЯЗАННЕ»** – увод ва ўладанне ў тым выпадку, калі вырашыў суд. Статут ВКЛ 1588 г. меў на ўвазе карыстанне маёнткамі, землямі, маёмасцю, феадальна залежнымі сялянамі. Пры выпадках, калі рабіўся ўвод ва ўладанне маёнткам з феадальна-залежнымі сялянамі, складаўся рэестр (пералік маёмасці), дзе ўказваліся і памеры павіннасцей феадальна-залежнага насельніцтва. Крэдытор не меў права браць больш таго, што было запісана ў рэестры. Калі «ўвязанне» ажыццяўлялася паводле выканаўчага ліста, копію якога *возны* (тут і далей выдзеленыя словы ўжо тлумачыліся ў ранейшых публікацыях. – **Рэд.**) уручаў даўжніку ў прысутнасці трох шляхціцаў. Тады, калі даўжнік не падпарадкоўваўся рашэнню суда ў вызначаны тэрмін, то для «ўвязання» разам з крэдыторамі накіроўваўся возны з панятымі, і маёнтак мог перадацца да выплаты даўгоў крэдытору. За супраціўленне выкананню судовага рашэння з даўжніка спаганяўся штраф у памеры выплачанага доўгу, для далейшага «ўвязання» накіроўваліся два возныя з пяццю шляхціцамі-панятымі. Калі і ў такім выпадку даўжнік не выконваў судовае рашэнне, то яго маглі абвясціць вываланцам і ў крайнім выпадку нават пакараць смерцю.

**УДАВА** – жанчына, у якой памёр муж. У XVI ст. у ВКЛ яна валодала (за невялікімі выключэннямі) многімі асабістымі правамі (напрыклад, суд мог прызначыць ёй для вядзення пэўнай справы *пракуратара* без аплаты паслуг. Удава магла быцьісціцай і адказнай, складаць усе віды пагадненняў, рабіць маёмасныя пагадненні, быць апекуном і інш. Яе правы ў многім залежалі ад яе саслоўнага і матэрыяльнага становішча. Ва ўмацаванні незалежнасці і пашырэнні правааздольнасці ўдавы важную ролю адыгрывала *вена*. Тая, якая сама кіравала сваёй маёмасцю, лічылася ўдавой на «ўдовіным стольцы». Яна распараджалася маёмасцю вена, амаль была ўласніцай яе, але завяшчаць магла толькі долю яе па тагачасных законах на маёмасць, якая знаходзілася ў сумесным карыстанні мужа і жонкі, але ў паасобным уладанні. Калі ўдава мела *вена* (матэрыяльнае забяспячэнне пасагу жонкі маёмасцю мужа), то пры выхадзе замуж паўторна, кроўныя сваякі (блізкія па мячы) маглі выкупіць у яе вяновае іменне. Калі ж удава вена не мела, то пры новым замужжы сваякі яе памёрлага мужа выплачвалі ёй пэўныя сродкі незалежна ад сумы *ўнясення*, якое яна ў гэтым выпадку траціла. У тым выпадку, калі ўдава парушала тэрмін жалобы (зноў асямейвалася раней шасці месяцаў пасля смерці першага мужа) ці ўдава-шляхцянка выходзіла замуж за простага чалавека, яна траціла вена. Страта вена і ўнясення была прадугледжаная Статутамі ВКЛ як маёмасная санкцыя і прадугледжвала ахову правоў дзяцей і кроўных сваякоў. Прававое становішча ўдавы пашыралася ў ВКЛ на жанчыну, муж якой лічыўся *вываланцам*.

*Краязнаўчая праграма*

# «Мазыразнаўства» як вучэбная дысцыпліна ў школах Палесся

*(Заканчэнне. Пачатак у № 6)*

**9. Мазыр і Мазыршчына ў гады Вялікай Айчыннай вайны.** Акупацыйны рэжым. Стварэнне акупантамі мазырскага гета, зверствы фашыстаў. Масавы партызанскі рух на Палессі. Мазырскія партызаны і падпольшчыкі, кіраўнікі падполля і партызанскага руху на Мазыршчыне (П. Лявіцкі, І. Ветраў, Ц. Бумажкоў, Ф. Языковіч, А. Жыльскі, М. Ільінкоўскі, М. Макаранка, Ф. Паўлоўскі, К. Бакун, К. Гаруля, Я. Талкачоў і інш.). Вызваленне Мазыршчыны ад акупантаў. Спісы загінулых землякоў і воінаў-вызваліцеляў ад фашызму ў кнізе «Памяць». Героі Савецкага Саюза – ураджэнцы Мазыршчыны (В. Харужая, М. Барысаў, М. Катлавец, М. Мураўёў, П. Жукаў) і іншыя славутыя землякі. Воінскія злучэнні, якія вызвалялі Мазыршчыну ў 1944 г. Героі Савецкага Саюза, якія загінулі або ўславіліся пры вызваленні Мазыршчыны ад фашызму (Н. Шмаргун, Г. Ціханаў, Д. Калдыкараеў, М. Катаеў, А. Рыжкоў, В. Няжноў, К. Захараў, Я. Налепка). Аднаўленне і развіццё прамысловасці, сельскай гаспадаркі і шляхоў зносін. Уклад насельніцтва Мазыршчыны ў перамогу над фашызмам.

**10. Сучасны Мазыр – буйнейшы прамысловы, транспартны і культурны цэнтр Палесся.** Важнейшыя прамысловыя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы Мазыршчыны. Памятныя мясціны Мазыра і Мазыршчыны: вуліцы, плошчы, спартыўныя комплексы, помнікі, мемарыяльныя дошкі, унікальныя архітэктурныя і культавыя будынкі, брацкія магілы. Адноўлены Мазырскі замак. Мазырскі спартыўны комплекс. Мастацкая галерэя ў вёсцы Гурыны. Мазырскі краязнаўчы музей. Музей дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва М. Пушкара. Музей 61-й арміі. Школьныя музеі горада і раёна. Навучальныя і медыцынскія ўстановы.

**11. Мазыр, Мазыршчына ў творах фальклору і мастацкай літаратуры:** творы пісьменнікаў П. Шпілеўскага, Я. Коласа, Я. Маўра, І. Навуменкі, І. Мележа, В. Вольскага, Б. Сачанкі, У. Караткевіча, Л. Прокшы, У. Верамейчыка, А. Федарэнкі, А. Бароўскага, І. Капыловіча, У. Краўчанкі, У. Отчыка, С. Алексіевіч; мясцовых аўтараў А. Малюка, Г. Дашкевіч, В. Андрыеўскага, І. Дзікавіцкага. Творы гісторыкаў і фалькларыстаў: А. Сержпутоўскага, Ч. Пяткевіча, М. Улашчыка і інш. Творы кінамастацтва і жывапісу (І. Пікман, П. Захараў, М. Пушкар, У. Бараноўскі, Мікалай і Віктар Дубровы). Мастацкія фільмы («Дзяўчынка шукае бацьку», «Паводка», «Адзіноцтва», «Заўтра будзе позна» і інш.).

**12. Славутасці Мазыра і Мазыршчыны.** Вядомыя асобы розных часоў: Кірыла Тураўскі (XII ст.), мітрапаліт Кіеўскі і Усея Русі Макарый (XV ст.), дыпламат і пісьменнік Філіп (Казімір) Абуховіч (XVI ст.), дзяржаўны дзеяч і пісьменнік XVI ст. Іван Мялешка, філосаф-матэрыяліст XVI ст. Стэфан Лаван (Ян Лавейка), кіраўнікі паўстання XIX ст. супраць царызму Фелікс і Іеранім Кеневічы, член арганізацыі «Народная воля» Геся Гельфман, сусветна вядомы вучоны акадэмік Эдуард Пякарскі, камісар брыгады ў гады грамадзянскай вайны Мікалай Данілеўскі, камбрыг Віталій Каўшоў, сусветна вядомыя вучоныя Пятро Ракіцкі, Міхаіл Мацапура, браты Аляксей Гусак, Сяргей Гусак, Мікалай Гусак, генералы М. Шляга, В. Дзенісенка, І. Дзікан, М. Пашкоўскі, В. Пузан, С. Ганчар, І. Рудзько, дзеячы мастацтва С. Шварц, М. Фінберг, М. Пятрэнка, А. Аўсіюк, І. Мазуркевіч і інш., пісьменнікі П. Шпілеўскі, С. Палуян, У. Караткевіч, У. Краўчанка, І. Навуменка, А. Бароўскі, А. Федарэнка, І. Капыловіч, С. Шах, У. Верамейчык, Л. Прокша, іх мастацкія творы, прысвечаныя Мазыршчыне. Спартыўны гонар Мазыршчыны.

**13. Літаратура (краязнаўчая, гістарычная, мастацкая і інш.) пра Мазыр і Мазыршчыну.** Агульная характарыстыка кнігі-хронікі «Памяць. Мазыр і Мазырскі раён», калектыўнай працы ў трох тамах «Мазыр 850 год», гістарычнага нарыса А. Бабра «Мой Мозырь», гісторыка-дакументальнай хронікі Мазырскага раёна «Деревни и люди Мозырщины» М. Капача, артыкулаў пра Мазыр А. Рогалева, В. Шура, В. Герасімава, публікацый у мясцовай газеце «Жыццё Палесся» за многія гады і інш.

*Васіль ШУР*

**Ад рэдакцыі.** ***На наш погляд, вельмі важным мог бы стацца яшчэ адзін пункт праграмы «Радзімазнаўства»: «Падзеі, імёны, зніклыя населеныя пункты, якія павінны быць ушанаваныя, увекавечаныя на мясцовасці для захавання памяці аб іх».***



*Рэшткі капліцы ў гонар кіеўскага мітрапаліта свяшчэннамучаніка Макарыя ў вёсцы Скрыгалаў на Мазыршчыне*

# Сваё ўзяло верх

***У 2004 годзе Міністэрства культуры нашай краіны, Міжнародны фонд Янкі Купалы і Літаратурны музей народнага песняра адзначылі сотую гадавіну пачатку беларускамоўнай творчасці Янкі Купалы. Адзначылі Купалаўскімі чытаннямі.***

***Што ж сталася падставаю?***

Як вядома, Купала свае першыя вершы напісаў па-польску. Першы беларускамоўны купалаўскі твор быў надрукаваны толькі ў 1905 годзе. То адкуль узялася дата «1904 год – як пачатак Купалавай беларускамоўнай творчасці?» Як адбыўся гэты пераход – з польскай на мову тутэйшага люду? Хто паспрыяў?

Сам Купала пра гэта расправядаў, што аднойчы ў яго рукі трапілі кнігі Дуніна-Марцінкевіча і Мацея Бурачка, і ўся ягоная польская пісаніна зышла на ніштo. Ім наскрозь апанавала стыхія роднай мовы. Паспрыяла і змена ў 1904 годзе месца жыхарства. У 1904 годзе Луцэвічы бяруць у арэнду недалёкі ад Мінска, усяго за чатырнаццаць кіламетраў, фальварак Бараўцы пані Стралковай. Поблізу Бараўцоў, у Казіміраўцы, жылі знаныя ў Мінску асветнікі Самойлы. Знаёмства з Уладакам Самойлам, з Ядвігіным Ш., размовы з імі, рэвалюцыйныя тагачасныя адозвы і скіравалі Купалу ў беларускае рэчышча.

Якія ж мы маем пра Купалу дакументы, звесткі з 1904 года?

Найперш ягоны фотаздымак, які так і пазначаны: «Янка Купала, 1904 год». З яго на нас глядзіць яшчэ нічым не спакушаны, нікому яшчэ нязнаны, яшчэ ўвесь у самім сабе юнак. Але ў сэрцы і душы ён паэт ужо. У галоўцы ягонай ужо ткуцца-снуюцца пякельныя думкі пра сваю зямельку Беларусь і яе гаротны люд, які адно сябе тутэйшым заве-называе. Апрануты ён інтэлігентна, шляхетна – у старанна адпрасаваны з саматканага сукна пільчак. Акурат у такім пільчаку мы бачым на здымку і ягонага папярэдніка – Франца Багушэвіча. З-пад гэтага пільчака выглядае каўнерык-стойка белай кашулькі, павязаны квяцістай хусцінкай – гальштукам-матыльком. У вачах журбота, задуменнасць і шмат-шмат пытанняў пра сваё наступства, будучыню свайго краю – неакрэсленую, незразумелую, якую ён пачаў ужо шукаць, счыркаў пра яе не адзін аркуш паперы. Адзін з іх, якраз з 1904 года, і дайшоў да нас. Гэта аўтограф верша «Мая доля». Ён і дае падставу лічыць 1904 годам пачатку беларускамоўнай творчасці Купалы. Пад аўтографам дата: «15-га ліпца 1904 года». Згадаем гэты верш:

*Мая доля, дык вось доля,*
*Каб ты лопнула была!*
*Каб у чыстае дзе поле*
*Ад мяне ты уцякла!*

*Чаму ж, доля, ты цяжкая,*
*Тут мне шчасця не даеш?*
*Чаму ж, горкая такая,*
*Смерць мне лепей*
*не пашлеш?*

*Гэтак цягам мяне мучыш,*
*Як душу у пекле чорт;*
*Гэтак сэрца маё сушыш,*
*Што аж сам я ссох, як хорт!*

*Не даеш ты мне спакою*
*Ані ўночы, ані ўдзень, –*
*Усё ходзіш ты за мною,*
*Як нябожчыка той цень.*

*Куды толькі ні парвуся,*
*Каб хоць троха лепей жыць,*
*Дык калі не аглянуся,*
*Мая доля тут бяжыць.*

*I усё мне скруціць, змуціць,*
*Як хто дзе калом ваду.*
*I душу маю засмуціць,*
*I нашле злую бяду.*

*I жыццё не міла стане,*
*Згінуць хочацца зусім.*
*I як бы хто сэрца зране, –*
*Нейкі боль чуваць у ім.*

*I так хочацца зваліцца*
*У глыбокі дзе ручэй,*
*Каб не бачыць – утапіцца –*
*Ані сонца, ні людзей.*

*Дык вось, доля, мая доля,*
*Каб ты лопнула была!*
*Каб у чыстае дзе поле*
*Ад мяне ты уцякла!*

Як бачым, першы Купалаў беларускамоўны верш вельмі ж сугучны з Багушэвічавым «Горам». Аўтограф згаданага Купалавага беларускамоўнага верша напісаны яшчэ лацінкаю. Захаванасць лацінкі сведчыць пра плаўны пераход Купалы ад польскамоўнай творчасці да беларускамоўнай. Мушу, між іншым, зазначыць: польскамоўная творчасць Купалы – была адначасова проба Купалавага беларускага пяра. Ён разумеў, што піша свае вершы не на той мове, якую ён чуе штодня – ад матулі сваёй, ад суседзяў, што з ягонай душы б'ецца-бруіць іншая моўная крынічка, больш плынная, плыткая, нязмушана ўрываецца ў польскую моўную ручаінку, змушае яго думаць па-беларуску, шукаць, падбіраць словы і формы польскія, багаж якіх у яго, пэўна, не быў такі багаты, як беларускі. Таму ён у выніку размоў з такімі сваімі настаўнікамі, як Ядвігін Ш., Уладак з Казіміраўкі, пасля іхніх радаў лёгка і нязмушана перайшоў у беларускамоўную плынь, дзе слова ягонае зіхацела шматлікімі колерамі вясёлкі, пахла водарам нашых палеткаў.

Варта таксама зазначыць: хоць пераход Купалы з польскай мовы на беларускую і быў натуральны, досыць плаўны, усё ж ён прынёс яму нямала клопату. I найпершы з іх – адсутнасць беларускай граматыкі. На 1904 год яе, як вядома, проста не існавала, і нашы песняры-першапраходцы не ведалі, як і чаго трымацца, і з гэтага яны мелі пэўныя творчыя нязручнасці. Была практыка друкаванага беларускага слова, але не было граматычнага асэнсавання гэтай практыкі. Купала, як і ягоныя папярэднікі, мусіў давярацца моўнай інтуіцыі, і яна яго не падводзіла, хоць часам сустракаем у яго нязвыклыя для нас моўныя формы. Аўтограф згаданага Купалавага першага беларускамоўнага ацалелага верша «Мая доля», як ужо гаварылася, напісаны лацінкаю. У ім пераважае фанетычнае пісьмо. Тут мы маем і «kap» лацінкаю – замест «kab», «hdzie» – замест «dzie» ды іншае.

Паколькі 1904 год і згаданы аўтограф бярэм за адлік пачатку беларускамоўнай творчасці Купалы, то гэты адзін з першых Купалавых аўтографаў мае для нас надзвычайную цікавасць: і як Купалам накрэслены літары, якім пёркам, і ўсе ягоныя праўкі – лексічныя і літарныя (а яны ёсць, асабліва ў другой частцы), і як размясціў Янка Купала вершаваныя радкі на аркушы паперы, і як ён падпісаны. А падпісаны ён роспісам і датаю. Пасля гэтага роспісу аўтограф мае яшчэ адну страфу-дапіску:

*Ах ты доля мая*
*Не люблю ж я цябе*
*Бо з табою да мяне*
*Гора смутак ідзе.*

I яна ўжо падпісана славутым паэтычным псеўданімам, вядомым зараз усяму свету «Янка Купала», лацінкаю.

У 1904 годзе Купалу было дваццаць два гады. Гэта быў ужо досыць сталы чалавек. Ён ужо ўсімі фібрамі свaёй душы адчуваў дысгармонію грамадскага жыцця беларускага люду. I як вынік – рэзка абвостранае адчуванне злыбяды паднявольнага чалавека.

***Беларускія вершы ён складаў досыць лёгка і праніклёна. Але не было дзе іх друкаваць. У 1904 годзе яшчэ не было беларускамоўнага друку. Тады Купалавы беларускамоўныя вершы распаўсюджваліся ў рукапісах. Некаторыя з іх Купала паказваў Уладзіміру Самойлу. Той чытаў іх і заахвочваў Купалу да творчасці, абяцаючы вершы дзе-небудзь абнародаваць. Слова сваё ён стрымаў, падараваўшы Купалу вялікую радасць: надрукаваў яго першы беларускамоўны верш. Гэтым вершам стаўся верш «Мужык». Час яго публікацыі пазначаны траўнем 1905 года. Але, думаецца, вынашаны ён Купалам усё ў тым жа 1904 годзе, які мы лічым пачаткам Купалавай беларускамоўнай творчасці.***

***Уладзімір СОДАЛЬ***

# Сцежка ад Былога да Сённяшняга

***Колькі мінула стагоддзяў ад першапачатку да дня сённяшняга? Даведацца можна толькі праз вывучэнне таго, што засталося, распытаць старых людзей, хто нешта чуў і бачыў... Магчыма, няма таго месца на Беларусі, дзе не адбылося «нешта» такое, што ўразіла селяніна.***

***Калі ласка, прапаную вашай увазе адзін невялікі шлях-агляд – сцежку «Былога», таго, што засталося...***



Пачнем з таго, адкуль з'явілася адна маленькая вёска на Гомельшчыне. Існуе легенда пра трох братоў, якія ішлі на поўдзень і засноўвалі свае паселішчы. Старэйшы – Хама, заснаваў **Хамінку** на больш выгодным месцы (рака, лес, узвышша); сярэдні – Карп, паставіў сваю **Карпаўку** каля ракі і азярынаў. І малодшы брат – Абакум, пабудаваў сваю вёску **Абакумы** ў непралазных лясах, непраходных балотах, недалёка ад рэк. «Етае було даўно – етае нам тутака нашы бацькі казалі, а ім іх бацькі – ніхто і не знае, калі тое тутака було...» – чуецца ў вёсцы. Дасёння засталіся тыя балоты (іх называюць *Вялікае і Малое Балоты, Купша, Канаплянае Балота*), застаўся і той непралазны лес, дакладней, ягоная частка – *Свірэжа, Карашын, Круглы Лес, Сасновы Бор*. Шкада, што праз стагоддзі страчвалася многае з паходжання гэтых назваў, але і шмат засталося.

Спынімся на гісторыі адной вёскі – Абакумы.

Невядома калі заснаваная, яна зведала татарскія набегі, паўстанні, войны. Існуе шмат легендаў, звязаных з «татарамі», пасля якіх засталіся назвы месцаў у лясах і ўздоўж рэк *(Татарскі Каўдоб, Балган, Татарскі Брод)*.

Пра Другую сусветную вайну нагадаюць дубы, у якіх падчас распілоўкі знаходзяць кулі, асколкі. Мясцовыя назвы апавядаюць: *Саланец* – тут была патоплена баржа, *Гуліна* памятае крывавае пабоішча, *Кардон* – збіты самалёт...

Пра не вельмі далёкі час апавядаюць паўсюдна зробленыя каменкі пры печках, дзе палілі лучыну для асвятлення, газавыя лямпы (якімі карыстаюцца і цяпер), механічныя машыны (конныя саграбалкі і касілкі, ручныя рэзакі). Электрычнасць тут з'явілася меней як паўстагоддзя таму, у 1963 годзе.

Увайсці ў вёску можна па Чумацкім Шляху (так яго называлі ў мінулым), цяпер гэта самая галоўная і адзіная дарога, каб трапіць у паселішча. Раней вёска складалася з трох частак: *Бараўня, Сяло, Выган;* сёння вёска складаецца з пяці частак: *Бараўня, Сяло (Цэнтр), Выган* (вельмі малы плошчаю), *Балабахаўка, Лясьнікова.*

Цяпер пералічу асноўныя культавыя аб'екты: *Могілкі* за вёскай, абнесеныя дубовым плотам (жэрдкамі) з дубовымі крыжамі, *Конскія Могілкі* за вёскай (у другі бок), *Вароты (Брама)* паміж Сялом і Выганам, *Цімохаў Камень*. Могілкі на тым жа месцы (кажуць, ім ужо гадоў 400) з плотам і каменнымі слупамі, жалезнымі крыжамі. Конскіх могілак зусім не бачна, але пахаванне коней праходзіць менавіта на тым самым месцы (ды й свойскіх коней цяпер у людзей зусім мала). Ад Брамы нічога не засталося, толькі дарога, якая звязвае Сяло (Цэнтр) і Выган (на якім засталося тры хаты). Цімохаў Камень быў трохкутны і пазначаў накірунак да залатога скарбу; цяпер ён ляжыць у падмурку адной вясковай хаты.

Раней шлях да бліжэйшага мястэчка ішоў па Слупавой дарозе, цяпер па ёй немагчыма прайсці – засталася толькі малабачная сцежка.

Раней было шмат Масткоў (спецыяльныя ўмацаванні, каб прайсці ці праехаць праз дрыгву), цяпер засталася толькі дарога, па якой воз едзе, нібы па хвалях – то ўніз, то ўверх.

Раней каля вёскі бегла вада з розных азярынаў і балотаў – і называлі тую плынь Макарава рэчка, цяпер засталося возера, малыя балотцы і невялікія ручаіны ўвесну.

Раней каля вёскі праходзілі «невядомыя» для сялянаў каналы, па якіх заўсёды бегла вада, цяпер засталіся неглыбокія і малапрыкметныя разоры.

Раней у лясах стаялі магутныя дубы (у 6 абхватаў) і сосны (у 3 абхваты), цяпер дзе-нідзе засталіся дрэвы ў 3–4 абхваты.

Раней тут вадзіліся мядзведзі, таму гэтыя месцы называлі яшчэ Мядзведжы Кут.

Раней жылі тут іншыя людзі (мелі адметнасці ў вымаўленні словаў, інтанацыйныя і лексічныя асаблівасці), цяпер іх усё менш і менш.

Таму я запрашаю ўсіх зрабіць магчымае, каб простыя факты і неверагодныя падзеі, людзі, рэчы мелі права на існаванне. Бо гэтага патрабуе сам час і родны край. Шмат аб чым можна даведацца ад старых людзей, калі ўважліва слухаць іх. Шмат чаго можна пабачыць, калі ўважліва ўглядацца ў родны кут. Шмат чаго можна, калі гэта трэба для захавання мінулага ў сённяшнім свеце...

***Янка ОСІПАЎ,***
***студэнт БДЭУ***








# 2007: Год Слова Купалы і Коласа

*(Працяг. Пачатак у № 3–6)*

**1903 г.** Малаэфектыўнае, унікальнае гаспадарства «начало мне надоедать, ибо нужно было трудиться на помещика»; Я. Купала ўжо сам дазволіў сабе шукаць іншыя сродкі працоўнага ўладкавання. Пачынае настаўнічаць, вучыць «вуму-розуму» дзяцей заможных сялян, былых беларускіх шляхціцаў. Пасля, расчараваўшыся ў тагачасным прадукцыйным характары былой беларускай шляхты, многія з якіх здрадзілі продкам, перайшоў на іншую працу, каб не бачыць і не чуць таго, што было нямілае для сэрца, але дзе «хоць капейчыну заплацяць». Становіцца канторшчыкам у маёнтку Беліца Сенненскага павета Магілёўскай губерні.

У польскім часопісе за той год «Ziarno», як паведамляў сам Я. Купала ў вусных размовах, ён і дэбютаваў як паэт пад ініцыяламі «І.Л» і «К-ла». Пазней, у савецкія часы, гэтыя звесткі і сам ён пазбягаў сцвярджаць. «Мабыць, надрукаваўся там».

**1904 г.** Хвароба маці змушае яго, насуперак сфармаванай сваёй волі, адхіліць убок вынашаныя душой грамадзянскія, па-беларуску асэнсаваныя любасныя душы справы, займацца іншым, нялюбым. Ды Я. Купала не быў бы ім, каб сам сабе не даў зарок: што не было б цяпер, далей, але буду пісаць для беларусаў і па-беларуску!

Цяпер упэўненей можна меркаваць, што яму гэтае перакананне, нават звышзадачу перадала, узмацніла і першая сустрэча з А. Бурбісам (той маладзейшы, з 1885 г.н., адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) з 1902 г., бясспрэчна, уталкоўваў, што для адраджэння Беларусі ёй патрэбна і палітычная беларуская партыя). Я. Купала ўхіляўся ад «палітык», але не мог не цікавіцца ёю, браць на сваё творчае ўзбраенне плённыя яе задумы і напрацоўкі. Калі ў савецкі час, яшчэ на пачатку 1920-х, А. Бурбіса, вядомага тэатрала і краязнаўцу, савецкая ўлада залічыла «буржуазным нацыяналістам», адпаведна сваім ворагам, Я. Купала... не змог тады і пазней ратаваць яго высакароднасць шчырага беларуса. Як і іншых дарагіх яму асоб. Безумоўна, і з-за гэтага ён, яшчэ нядаўна па-шляхетнаму жвавы, узнёслы прыгажун, у 1930-я пачаў раптоўна худнець... Ён, можа, і змучыўся ад таго, што, у свой час паддаўшыся на савецкія ільготы, пачаў выконваць заказы і перастаў быць самім сабою...

**1905, 15 мая.** У рускамоўнай, але даволі дэмакрытычнай газеце «Северо-Западный край», як гаварылася вышэй, са спрыяння Ул. Самойлы публікуецца верш, падпісаны псеўданімам «Янка Купала». Гэты верш называўся больш чым проста і сціпла «Мужык». Але ягоны аўтар адразу пасля гэтай публікацыі стаўся ў беларускай літатаратуры і «шляхціцам», і «мужыком-селянінам» у адной асобе...

Варта дадаць і іншае, што пачало ў гэтым годзе ўзвышаць Я. Купалу: адчуўшы сілу, моц і прыгажосць беларускага слова, ён не толькі піша на ім свае творы, але і на справе, творча даказвае чытацкай грамадскасці, у тым ліку і пыхліва-варожай, што на беларускай мове прыгожа гучаць і творы І. Крылова, М. Някрасава, А. Міцкевіча, Ул. Сыракомлі і іншых.

*(Працяг будзе)*

## Бяларуцкім шляхам

З восені 1897 года да вясны 1898-га ва ўзросце 15 гадоў у Бяларуцкім народным вучылішчы вучыўся Янка Купала. Жыў ён у інтэрнаце (звычайная хатка, што знаходзілася ля школы). Адвучыўшыся адну зіму ў Бяларучах у настаўніка Турчыновіча, ён здаў экзамен, атрымаў атэстат, які, дарэчы, недзе згубіў, але копія гэтага дакумента і да сённяшняга дня захоўваецца ў музеі школы. Пасля гэтага доўгі час не мог вучыцца, беднасць прымусіла шукаць іншы хлеб. У 1898 годзе Купала пакідае Бяларуцкае вучылішча.

У в. Прудзішча Бяларуцкай воласці Луцэвічы ўзялі ў арэнду фальварак у памешчыка Жаброўскага і жылі там 10 гадоў. Янка Купала вучыўся таксама і ў в. Мачаны Бяларуцкай воласці, і ў Гаянах, у Бясядах, Прудзішчах. У Гаянах і Прудзішчах на той час школ не было і Янку даводзілася хадзіць пешшу з Прудзішчаў у маёнтак Гаяны да настаўніка-дарэктара. Нельга таксама не адзначыць і вёску Лысая Гара Бяларуцкай воласці, дзе некаторы час непадалёк ад яе ў Акопах жыла маці Янкі.



*Школа ў Бяларучах (мал. Юрыя Спалана пачатку 1950-х гадоў паводле ўспамінаў сваёй бабулі Дар'і Войніч, дачкі настаўніка М.Ф. Турчановіча)*

Сёння адна са старэйшых школ у Лагойскім раёне ў Бяларучах носіць імя Янкі Купалы. У ёй вывучылася не адно пакаленне дзяцей, і яны ганарацца тым, што вучыліся ў гэтай школе. У 1954 годзе тут быў адкрыты першы клас-музей Янкі Купалы, а ў 1998 – новая экспазіцыя музея «Янка Купала ў Бяларучах», прымеркаваная да 100-годдзя з дня сканчэння Купалам Бяларуцкай школы. У ёй праводзіцца вялікая праца па ўшанаванні памяці славутага земляка.

З канца 1920-х гадоў пачаліся рэпрэсіі супраць інтэлектуальнага генафонду нацыі – інтэлігенцыі, была распачата кампанія па «выкрыцці» нацыянал-дэмакратызму. Выявілася яна ў расправе над прадстаўнікамі навукі, літаратуры, мастацтва, работнікамі шэрагу наркаматаў рэспублікі. У 1930-я гады больш за палову свайго асабовага складу страціў Саюз пісьменнікаў Беларусі (159 рэпрэсаваных пісьменнікаў). У першую чаргу гэта адносілася і да выдатнага песняра Беларусі Янкі Купалы. Трапіўшы пад жорсткі прэс карных органаў, 20 лістапада 1930 года ён зрабіў спробу самазабойства. Я. Купала нанёс сабе ўдар нажом у правы бок. Сёння ў Бяларуцкім музеі імя Янкі Купалы захаваўся фотаздымак пісьменніка менавіта тых часоў, калі ён спрабаваў развітацца з жыццём.

***Дзмітрый ДУБРОЎСКІ, студэнт БДУ***

## З успамінаў сястры Леакадзіі Дамінікаўны (1890–1970)

### Ясева навука

Вучыўся ён у выпадковых дарэктараў[1]. Такое навучанне яго не задавальняла. Ён пачаў прасіць бацькоў паслаць яго ў школу. І вось бацькі паслалі яго вучыцца ў Бяларуцкае народнае вучылішча. Скончыў Ясь за адну зіму. Многа чытаў і таму ведаў шмат больш, чым патрабавалася праграмай.

Ясь быў нашым першым і адзіным настаўнікам. Ён навучыў нас грамаце.

Ясь вельмі хацеў вучыцца далей. Ён прасіў бацьку паслаць яго вучыцца ў Мінск. Якраз у гэты час здароўе бацькі пагоршылася. Ён хацеў бачыць Яся сваім памочнікам па гаспадарцы.

– Для гаспадара хопіць і тае навукі, што маеш, – казаў бацька.

У суседні фальварак на лета прыехаў студэнт Самойла. Ясь з ім пазнаёміўся. З сумам расказаў ён новаму сябру аб сваім жаданні вучыцца.

Самойла ўзяўся падрыхтоўваць Яся ў рэальнае вучылішча. Усё лета начамі Ясь сядзеў за кнігамі.

Увосень Самойла паведаміў Ясю, што дырэктар Мінскага рэальнага вучылішча (бацька Самойлы) згодзен прыняць яго ў вучылішча без іспытаў. Як ні прасіў Ясь паслаць яго вучыцца, нічога не выйшла. Бацька не пусціў. Гэта зрабіла на Яся вельмі цяжкае ўражанне.

### Першыя вершы

У Селішчы Ясь пачаў складаць вершы. Першы верш ён напісаў на мае імяніны. Было гэта ў 1902 годзе. Раніцой мама паслала мяне ў мястэчка Бесяды да крамніка Абромкі купіць мукі, цукру, дражджэй. Я пайшла. У гэты дзень усё нешта не ладзілася ў мяне з работай. Ясь хадзіў і падсмейваўся з мяне.

Вечарам ён прачытаў верш, у якім расказаў пра мой няўдалы дзень, пра ўсё, куды я хадзіла і што рабіла.

Усе пачалі смяяцца з мяне. Я вельмі абразілася на Яся, выхваціла паперку з яго рукі і кінула ў печ.

Гэта было першае літаратурнае выступленне брата.

Многа гора зазнала наша сям'я ў Селішчах. Памёр бацька. Ён быў вельмі працавітым чалавекам. Непасільная праца на панскай зямлі заўчасна загнала яго ў магілу. Скора пасля смерці бацькі на нашу сям'ю ўзвалілася новае няшчасце. На шкарлятыну захварэлі ўсе дзеці, апрача Яся. Усе шасцёра ляжалі, як пласты. У адзін тыдзень смерць забрала траіх дзяцей. Памерлі Казя, Сабіна і Гэля, Ясева любіміца.

Ясь хадзіў сам не свой.

Пасля смерці бацькі Ясь застаўся за гаспадара. Вельмі многа яму даводзілася працаваць. Ён стаў пануры, маўклівы. Пачаў многа пісаць.

Пісаў ён на полі, на возе і ўсюды. Суседзі сталі жартаваць з яго:

– Чулі, Луцэўчык вершы піша?

– Відаць, панам будзе.

– Адно яго чакае – астрог. Шкада Луцэвічыху. Бедная ўдава.

Такія чуткі даходзілі да маткі. Яна нічога на гэта не адказвала, маўчала. Часам пачынала з Ясем гутарку:

– Ясю, як жыць будзем? Бацькі няма, ты ўсё кніжкі чытаеш, вершы складаеш. Дабром усё гэта не скончыцца. Што ты сабе думаеш? Ці ты хлеб з гэтага будзеш есці?

– Мама, ці хацела б ты, каб бацька вярнуўся з таго свету і зноў пачаў жыць з намі?!

– Чаму ж, дзеткі, не хацела б. Ой, як бы яшчэ хацела.

– Як табе хочацца, каб бацька вярнуўся да цябе, так мне хочацца пісаць. Нельга вярнуць бацьку да нас, нельга забараніць мне вершы складаць.

*(Паводле зборніка «Такі ён быў». Мн.: «Мастацкая літаратура», 1975)*

[1] Так называлі прыватных настаўнікаў. Дарэктарамі былі звычайна людзі малапісьменныя, якія не мелі настаўніцкай адукацыі.



*Бр. Эпімах-Шыпіла і Ул. Самойла*

*(Працяг. Пачатак у № 3–6)*

Ф. Кудрынскі, як і сёння бачна, са спачуваннем адносіўся да беларускіх сялян і іхніх дзяцей, а таксама і да выпускнікоў семінарыі, што станавіліся народнымі настаўнікамі. Ды абачліва агаварыўся: «Но что испытывает «господин учитель», прослужив на селе десяток лет на 15-рублёвом жалованьи, и как он тогда смотрит на свои визитные карточки и что думает – об этом пока говорить не будем». Гэтая светлая асоба, якая зрабіла вялікі ўплыў на юнага Коласа, таксама абачліва свае назіранні і ўражанні, выкладзеныя ў эсэ «Семинаристы из народа», падпісала не сваім сапраўдным прозвішчам, а псеўданімам – Багдан Сцепанец.

І не выпадкова. Тады і выкладчыку настаўніцкай семінарыі не дазвалялася мець «лішнія» – г.зн. не дырэктыўныя, з царскіх ведамстваў, а ўласныя думкі. У тым жа 1902 годзе дырэктар Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (яго прозвішча вядомае ды няма ахвоты называць яго), азнаёміўшыся з гэтай публікацыяй пра навучальную ўстанову, якую ўзначальваў, мала сказаць абурыўся. Учыніўшы сваё даследаванне, 31 студзеня 1902-га ён робіць данос папячыцелю акругі: «Позволю себе обратить внимание вашего превосходительства на статью в январской книжке «Вестника воспитания» за этот год под заглавием «Семинаристы из народа (заметки педагога)» Богдана Степанца, принадлежащую наставнику Несвижской учительской семинарии г. Кудринскому (псевдоним его известен)». Ён даносіць, што артыкул накіраваны супраць тагачасных пастаноў Міністэрства народнай асветы, «отличается полною беспринципностью» – г.зн. ён залічае падуладнага калегу-педагога ў лік «не наших педагогов-просветителей». Спачатку ён папікае, што Ф. Кудрынскі не параіўся з начальствам, якое найперш можа мець вышэйшую думку, а ў аснову свайго даследавання паклаў «мальчишеские отзывы неразвитых учеников из крестьян» (адчуваеце, якая фанабэрыя і пагарда да нашага народа?!).

Далей педагагічны чыноўнік працягвае: маўляў, «мужички» яшчэ не дараслі да ўспрыняцця «изящной литературы», што ўстанова, якую ён узначальвае, «элементарно» рыхтуе іх да гэтага. Але «Кудринский, игнорируя... давал ученикам книги... даже недозволенные... нужных как материал для задуманной им статьи...»

А свой данос гэты «дабрадзей» закругліў палітычна: Ф. Кудрынскі замінае не толькі «умственным и нравственным расположением, направлением и пониманием в педагогическом деле, как это требуется ясно поставленными правительством задачами этих учебных заведений, имеющими в нашем крае ещё и свою особую, именно обрусительную роль...»

«Всё это, – заключаў ён, – свидетельствует, по крайней мере, о том, что служба в семинарии г. Кудринскому нравится, а при этом условии продолжение этой его службы едва ли может быть полезным для семинарии».

*(Працяг будзе)*



*Костусь і Кудрынск… малюнку Г. Скамарохава*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*



З бібліятэкі «КГ»

# Наш край у літаратуры з XI стагоддзя

***Адлік з таго часу азначае, што так ці гэтак Беларусь засведчваецца ўжо не менш 1 000 гадоў! І не проста яе прырода, асобы, падзеі ўносяцца ў розныя дакументы, а краіна жыла, развівалася, не зважаючы нават на велізарныя цяжкасці, што, напрыклад, суправаджалі яе рознымі забаронамі з 1696 года ажно па 1905-ы! Загартаванне стагоддзямі дае надзею, што будзе жыць, плённічаць і далей.***

Вось нядаўна, напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «Беларуская навука» пры садзеянні НАН Беларусі і распрацоўцы яе Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы нібы ў доказ гэтага выйшаў першы аб'ёмісты (больш за 900 старонак) том «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў». Давайце разам пагартаем іх, гэтыя аркушы. Пачынаюцца яны з публікацыі зместу, з якога вы даведаецеся, што да навуковай працы прыклалі розум, веды і душу каля 20 слынных беларускіх навукоўцаў (некаторыя з іх з'яўляюцца аўтарамі двух і трох артыкулаў). Невялікую, але ёміста навуковую і ў добрым сэнсе сучасна жывую, зацікаўленую прадмову напісаў выдатны даследчык беларускай даўніны Вячаслаў Чамярыцкі (ён жа і навуковы рэдактар гэтага тома). Проста, але змястоўна прадуманы падзел выдання на часткі.




**«Літаратура эпохі Сярэднявечча: XI–XV стагоддзі».** Па гэтым раздзеле чытач мае магчымасць азнаёміцца з артыкулам «Ранняе Сярэднявечча», дзе па-новаму спазнае месца і лёс нашых продкаў, як тут напісана, «з розных культурных зон», што яны чыталі і вусна альбо пісьмова ў рукапісах складалі, як уяўлялі свет вялікі і сябе ў вобразах, як паўплывалі на іхнюю культуру ўвядзенне хрысціянства, а з ім і пісьменнасці. А з апошнім на вышэйшым узроўні ідзе аналіз агромністай ролі летапісаў, дзелавых запісаў, якія нараджаліся на патрэбу жыцця ў сувязі з эканамічнымі і гандлёвымі, культурнымі сувязямі нашых продкаў з суседзямі. З духоўных запатрабаванняў узнікалі сказы, кніжная рыторыка, тэксты набажэнстваў, павучанні і казанні, жыцці святых, паўсвецкія творы. Развіваліся апокрыфы; неацэнную ролю для спазнання гісторыі, вобліку ўсходніх славян мела «Аповесць мінулых гадоў», новаму даследаванню якой у раздзеле адводзіцца вялікая ўвага. Як і пераасэнсаванню «Жыція Еўфрасінні Полацкай», «Жыція Аўрамія Смаленскага, «Слова пра манаха Марціна», творчасці царкоўнага і літаратурнага дзеяча сярэдзіны XII стагоддзя К. Смаляціча, які зрабіў значны ўклад у развіццё тагачаснай публіцыстыкі, Галіцка-Валынскага летапісу (першыя звесткі пра ўтварэнне прыкладна ў 1246 годзе ВКЛ). У гэтым жа раздзеле ёсць і персаналіі (К. Тураўскі, Г. Цамблак), аналіз «Слова пра паход Ігара», эпохі позняга Сярэднявечча (граматы, «Судзебнік» Казіміра 1468 года, так званая «Літоўская метрыка», дзейнасць і творчасць мітрапаліта Кіпрыяна, «Жыціе трох віленскіх пакутнікаў», перакладныя творы, «Хаджэнне Ігнація Смалянiна», «Пахвала вялікаму князю Вітаўту», «Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму»). Раздзел заканчваецца даследаваннем часу, умоў напісання, зместу ўласнабеларускіх летапісаў («Летапіс вялікіх князёў літоўскіх»).

Наступная частка гістарычна-тэарэтычнага сінтэзу мае падзагаловак **«Літаратура эпохі Адраджэння. XVI стагоддзе».** Тут – уступнае слова пра новы перыяд у развіцці беларускай дзяржаўнасці і культуры, персаналіі, прысвечаныя Ф. Скарыну, М. Гусоўскаму, С. Буднаму, А. Рымшу, Г. Пельгрымоўскаму і асобныя артыкулы «Хронікі» («Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», «Хроніка Быхаўца»), «Публіцыстычная літаратура» (творчасць К. Русіна, «Размова паляка з ліцвінам» А. Ратундуса, шматлікія творы Мікалая Радзівіла, В. Цяпінскага, А. Волана, Л. Сапегі і інш.). Мабыць, не кожны з нас можа шмат сказаць увогуле пра паэзію XV стагоддзя. Таму ў гэтай частцы тома адпаведныя свае веды можна значна пашырыць па даследаванні «Паэзія», даведацца, пра што і як пісалі панегірычна ці палемічна, эпіграмамі на розных мовах многія паэты. У тым ліку Л. Мамоніч, Я. Вісліцкі (адзін з першых у паэме «Пруская вайна» сродкамі паэзіі адлюстраваў Грунвальдскую бітву 1410 года), П. Раізій (каля 1 200 твораў), Я. Мылій, Б. Гіяцынт, Ф. Градоўскі, Я. Радван (цікавая ягоная паэма «Радзівіліяда... альбо пра жыццё і справы... князя Мікалая Радзівіла»), Я. Каханоўскі, Я. Зарэмба, М. Чаховіч, Ц. Базылік, С. Лаўрэнцій і многія іншыя.

Заключныя раздзелы тома прысвечаны **літаратуры эпохі барока канца XVI – першай паловы XVIII стагоддзяў.** Як і папярэдне, гаворка пачынаецца аглядным артыкулам «На рубяжы эпох», у якім падкрэсліваюцца грамадска-палітычная і культурная сітуацыя ў Еўропе, Польшчы і ВКЛ таго часу, што натуральна вядзе да знаёмства з наступным даследаваннем «Палемічная літаратура». У ім расказ пра ўспрыняцце тагачаснікамі рэлігійных спрэчак (Брэсцкая унія 1569 года), тэзісы К. Астрожскага пра ўмовы задзіночання хрысціянаў, палеміку уніята П. Скаргі і нязгоднага з вызначэннем дамінуючай ролі рымскіх біскупаў Х. Філалета, С. Зізанія, а таксама пра асветніцкую працу і апанента М. Сматрыцкага Л. Зізанія, палемістаў А. Мужылоўскага і Я. Руцкага, дзейнасць ініцыятара рэфармавання традыцыйнай праваслаўнай сістэмы адукацыі, публіцыста С. Косава. «Палемічная літаратура – унікальная з'ява нацыянальнай мастацка-эстэтычнай і духоўнай культуры, – зазначае аўтар гэтага артыкула. – Паводле колькасных і якасных параметраў – багацця жанраў, літаратурных формаў, ступені ўплыву на важнейшыя сферы жыцця грамадства – яна належыць да асноватворных відаў пісьменства. Феномен узнікнення аграмаднай у колькасных і якасных адносінах мастацкай палемічнай спадчыны Беларусі канца XVI – першай паловы XVIII стагоддзяў тлумачыцца той акалічнасцю, што нашы продкі для пераадолення, «зняцця» натуральных супярэчнасцяў і непазбежных канфліктаў – сацыяльных, этнічных, канфесійных, міжнародных – абіралі не сілавыя збройныя метады, не шлях фізічнага знішчэння ворага, а пераносілі барацьбу ў інтэлектуальную сферу, надавалі ёй формы свабоднай, адкрытай дыскусіі на старонках друкаваных і рукапісных твораў». У заключнай частцы чытач зможа бліжэй пазнаёміцца з асобамі, творчасцю І. Пацея, М. Сматрыцкага, Л. Карповіча, А. Філіповіча, Я. Пратасовіча, С. Рысінскага, С. Полацкага, Ф.У. Радзівіл, якім прысвечаны асобныя старонкі. Іншыя публікацыі дадуць большае ўяўленне пра паэзію, гісторыка-мемуарную літаратуру, драматургію, перакладную, рэлігійную і свецкую літаратуру, творы позняга барока, што ўсё разам узятае не можа не пацвердзіць вядомы тэзіс пра тое, што XV–XVI стагоддзі – сапраўды, залаты век беларускай мовы і культуры.

У даследаванні ёсць паказальнік імёнаў, спіс выкарыстанай літаратуры (каля 500 назваў), што робіць выданне па-навуковаму грунтоўным, пазнавальным і патрэбным кожнаму з нас, хто жадае беларускую даўніну ведаць больш і глыбей (наклад яго, на жаль, невялікі, 1 000 асобнікаў). А адтуль, з даўніны, і да нас гучыць зусім не абыякавы, а ўсхваляваны голас таго ж ураджэнца Магілёва, асветніка і яркага паэта эпохі барока Тамаша Яўлевіча (першая палова XVII стагоддзя):

*Вас шмат, а вы й сабе*
*даць рады не сумелі.*
*Гібеюць гожыя навукі –*
*вам не справа.*
*Таму так ваша растае,*
*як снег, дзяржава.*
*Не ўбачыце вы поспеху*
*парой любою,*
*Пакуль з сябе ня выцісніце*
*ўсё благое,*
*З чаго галеча й звады*
*шырацца тлумліва.*

*(Пераклад на сучасную беларускую мову Р. Барадуліна)*

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

**Ад рэдакцыі.** ***Дзякуем Вячаславу Чамярыцкаму за магчымасць пакарыстацца 1-м томам вышэйназванай працы і шчыра жадаем яму і ягоным калегам паспяхова закончыць працу над 2-м томам і неўзабаве выдаць яго.***

Землякі ў свеце

# Койданаўцы на залатых капальнях Якуціі

Каб выявіць дакладную дату смерці Арцёма Вярыгі-Дарэўскага (беларускага пісьменніка-дэмакрата; 1816–1884. – **Рэд.**), аднаго з пачынальнікаў «новай» беларускай літаратуры, які, па словах ягонай дачкі Габрыэлі, памёр недзе ў «якуцкай тайзе», давялося праглядаць якуцкія царкоўныя метрычныя кнігі, што захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Саха (Якуція). Асабліва цікавілі метрычныя дакументы царквы ў Мачы, бо паселішча Мача ў сярэдзіне XIX стагоддзя зрабілася сталіцай толькі што адкрытых залатых капальняў Алёкмінскай горнай сістэмы, гэткі «Клондайк на Якуцкай зямлі». Дарэчы, адным з рэзідэнтаў на Мачы быў Мельхіёр Чыжык, былы паўстанцкі камандзір вызвольнага руху 1863 года ў Мінскай губерні, які са сваім атрадам пратрымаўся ажно да самай восені. Дарэчы, ён і пахаваны на цвінтары мачынскай царквы.

Адразу пасля адкрыцця радовішчаў золата туды пацягнуліся «шукальнікі шчасця» з усёй тагачаснай Расійскай імперыі. Не выключэннем было і Койданава. Напрыклад, «Метрическая книга выданная из Якутской Духовной Консистории притчу Мачинской Николаевской церкви на 1900 год» паведамляе, што 31 ліпеня 1900 года (зразумела, што дата падаецца па старым стылі) у Мачынскай Мікалаеўскай царкве была ахрышчана Алімпіяда, якая нарадзілася 24 ліпеня 1900 года. Яе бацькамі былі койданаўскі мешчанін Мінскай губерні і павета Канстанцін Сямёнаў-Бараноўскі і Міхаліна Мартынава – абое рымска-каталіцкага веравызнання. Сведкамі гэтага былі «прыказны Якуцкага казацкага ліку Аляксандр Кузьмін-Бубякін і дваранка Васа Хведараўна Лімант». Хрост здзейсніў «святар Мікалай Папоў».

***Алесь БАРКОЎСКІ,***
***капітан-механік***
***ц/п АС-21, г. Якуцк***
***(Рэспубліка Саха)***



*Мал. з кнігі В. Грыцкевіча «Ад Нёмана да берагоў Ціхага акіяна»*

# У чаканні новых гаспадароў...



У вёску Качановічы, якая знаходзіцца ў Пінскім раёне амаль на самым беразе Прыпяці, дабрацца адносна не цяжка – усё ж такі сюды, пакуль раку не скаваў лёд, са сталіцы Палесся не часта, але рэгулярна ходзіць цеплаход. А ў суседняй вёсцы, што на супрацьлеглым беразе, спыняецца і аўтобус. Але... Што чакае Качановічы ў недалёкай будучыні? Жывуць тут амаль адны пенсіянеры. А закінутых хат становіцца ўсё болей і болей. Прадаюцца яны амаль за бясцэнак. І гэта ў такім маляўнічым месцы!.. А пакуль не з'явіцца новыя гаспадары (ці будуць наогул!?) бязлюдныя сядзібы вартуюць старыя, амаль цалкам засохлыя дрэвы...

***Тэкст і фота Ігара ГРЭЧКІ***

Па слядах прадзеда

# Паломніцтва з Амерыкі ў Беларусь



(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Аўтар (*на фота*) называе сваё імя наступным чынам: *Judd («Yehuda») Rothstein*, што можна вымавіць па-беларуску як Джуд (Іуда) Ротстэйн ці Ратстэйн. Ён 22-гадовы студэнт-юрыст універсітэта ў Мічыгане. Па нацыянальнасці яўрэй, і продкі яго жылі ў Талачыне (ёсць звесткі аб тым, што гэты горад заснаваны менавіта яўрэямі, і пэўны час яны складалі там 70 % насельніцтва). Хоць зараз тут нікога з яго радні няма, хлопец захацеў наведаць горад, а таксама, па магчымасці, і іншыя мясціны Беларусі. Ва ўступе да сваіх нататак ён кажа: *«Мне здаецца натуральным, што зямля, якая ўзгадавала нашых продкаў, праз сто гадоў можа паклікаць да сябе хаця б аднаго з іх нашчадкаў».*

## Паспяховы прадзед

Вывучаючы свой радавод, Джуд высветліў, што яго прадзед Якуб Рутстэйн (напэўна, так раней гучала прозвішча гэтага роду, якое пасля амерыканізавалася, – па-англійску Джуд піша імя свайго прадзеда: *Yaakov (Jacob) Rutstein*) нарадзіўся ў Талачыне ў 1878 годзе. У 1906 годзе ён прыехаў у Амерыку (пакінуў Беларусь яшчэ ў 1905-м, але затрымаўся ў дарозе) і, па словах Джуда, *«за дзесяць гадоў зрабіў мільёны долараў»*. Чым канкрэтна прадзед, тады яшчэ малады, займаўся ў ЗША, на чым разбагацеў, яго праўнук не паведамляе, але піша, што Якуб дапамагаў на сваім новым месцы жыхарства заснаванню шматлікіх яўрэйскіх арганізацый.

Больш падрабязную інфармацыю хлопец дае пра беларускае жыццё свайго продка. З яе можна зрабіць выснову, што Якуб быў вельмі разумны і прадпрымальны чалавек. Яшчэ ў дзяцінстве ён дапамагаў бацьку ў гандлі лесам, мог ацаніць плоднасць саду, прызначанага на продаж. Пазней быў наняты нейкай нямецкай кампаніяй як *«генеральны менеджэр»* для экспарту морапрадуктаў з Расіі. Займаючыся гэтай працай, ён назбіраў грошай і паклаў іх у лонданскі банк. Падчас расійска-японскай вайны ўцёк з арміі (ці ад прызыву ў армію: словы *«from army»*, так напісана ў арыгінале, можна зразумець і як *«з арміі»*, і як *«ад арміі»*) у Лондан, забраў свае грошы і накіраваўся ў Амерыку. Але па дарозе яго зваліла з ног *«рэўматычная ліхаманка»*, і пасля некалькіх месяцаў лячэння ў шпіталі, патраціўшы ўсе свае сродкі, Якуб апынуўся ў Нью-Йорку практычна без грошай. Але, відаць, сапраўды ён быў разумны і прадпрымальны чалавек, калі нават пасля такой няўдачы стаў мільянерам.

Ён меў пяцёра дзяцей, якія, па словах Джуда, *«пайшлі сваімі, асобнымі жыццёвымі шляхамі»*. Хлопец піша, што цяпер нашчадкі Якуба Рутстэйна *«сустракаюцца толькі на пахаваннях»*.

## Паважлівы праўнук

Усведамляючы даследаванне сваіх каранёў як *«даніну павагі людзям, спадкаемцам якіх я з'яўляюся»*, Джуд збіраў да сваякоў генеалагічную інфармацыю і адначасова шукаў праз інтэрнет магчымасці наведаць Беларусь. І такая магчымасць з'явілася, калі яго ўключылі ў студэнцкую групу для паездкі ва Украіну. На зваротным шляху ён паехаў спачатку ў Расію, у Маскву, а адтуль накіраваўся ў Беларусь, загадзя дамовіўшыся з тутэйшымі прадстаўнікамі яўрэйскай дыяспары аб тым, што яго сустрэнуць і будуць суправаджаць. Мінск–Орша–Талачын–Каханава–Орша–Мінск – такі быў маршрут яго паездак па працягу некалькіх дзён жыцця ў Беларусі. Ён наведваў яўрэйскія арганізацыі, мясціны, звязаныя з гісторыяй свайго народа, бываў у гасцях у некаторых сем'ях.

У горадзе сваіх продкаў Джуд сустрэўся з некалькімі прадстаўнікамі яўрэйскай нацыянальнасці, якія жывуць тут ужо не ў першым пакаленні, былі ў іх дома. *«Я не магу падабраць словы, – кажа ён, – каб апісаць цеплыню, гасціннасць, якія праявіла да мяне гэта сям'я. Яны не шмат маюць, але ўсё цалкам ахвяравалі мне. Іх шчырасць да зусім чужога чалавека пераканала што, нягледзячы на нашу матэрыяльную забяспечанасць у Злучаных Штатах, мы не навучыліся быць такімі шчырымі, якімі маглі б быць».* Таксама Джуд наведаў могілкі, дзе знайшоў надмагільны камень з прозвішчам Рутстэйн (рыхтуючыся да паездкі ў Беларусь, ён спецыяльна засвоіў кірылічны алфавіт), пабываў на месцы пахавання яўрэяў, расстраляных падчас вайны, і ў краязнаўчым музеі. Па дарозе ў Оршу заехаў у Каханава, куды, паводле яго нешматлікіх звестак, пад старасць перасяліўся з Талачына яго прапрадзед па лініі бацькі.

## Дзве радзімы?

У нататках Джуда некалькі разоў сустракаюцца ўзрушаныя, сентыментальныя разважанні аб тым, што, магчыма, яго продкі хадзілі гэтымі самымі дарогамі і бачылі тое, што зараз бачыць ён сам (напрыклад, старажытныя будынкі ў Талачыне). Ужо ў Мінску, чакаючы выезду ў аэрапорт, аналізуючы ўбачанае і пачутае падчас паездкі, Джуд стараўся перанесціся думкамі ў мінулае і ўявіць свайго прадзеда, які таксама пакідае Беларусь і накіроўваецца ў Амерыку, толькі, у адрозненне ад праўнука, пакідае радзіму і накіроўваецца ў невядомую чужыну. *«Я ўсвядоміў, што роўна сто гадоў таму мой прадзед Якуб Рутстэйн пакінуў сваё маленькае паселішча ў пошуках лепшага жыцця. Гэта была наіўнасць маладога правінцыяльнага хлопца, які выязджаў у Амерыку, каб рэалізаваць сябе там. Я ўяўляю, як ён запакоўвае некалькі боханаў хлеба і крочыць на чыгуначную станцыю з вузлом за плячамі».*

Так вось арыгінальна адзначыў чалавек стогадовы юбілей перасялення свайго роду на іншы мацярык – прайшоў слядамі продкаў.

**Сяргей АБРАМОВІЧ**
**Фота з інтэрнэта**




(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)

Эмерыка Чапскага часта наведвалі такія вядомыя дзеячы як Чэслаў Манюшка з сынам Станіславам, будучым выдатным кампазітарам, епіскап мінскі М. Галубовіч, вядомы беларускі мастак Напалеон Орда, які намаляваў два пейзажы з відамі сядзібы. У адноўленым парку была створана алея шырынёю 12 і даўжынёю 365 крокаў, па колькасці дзён у годзе. Непадалёк ад палаца была пабудавана 30-метровая вежа з гадзіннікам і лядоўняй у скляпенні. Пры падзеле маёмасці графам Эмерыкам Чапскім Станькаўская сядзіба перайшла да яго старэйшага сына Караля, а Прылуцкая – да малодшага сына Юрыя (Ежы). Юры Чапскі валодаў сядзібай з 1886 па 1918 гг. і быў вельмі дбайным гаспадаром. Вялікую ўвагу ён надаваў сельскай гаспадарцы, гадаванню пародзістай свойскай жывёлы.



Як сведчылі мясцовыя старажылы, Юры Чапскі добра ставіўся да мясцовых сялян, дапамагаў ім, яго паважалі. Таму ні немцы, ні бальшавікі – ніхто не наносіў шкоды ні яму, ні яго сям'і. А сям'я ў яго была немалая – жонка нарадзіла пяць дачок і двух сыноў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў сядзібе быў размешчаны санаторый ЦК. У 1926 г. кінастудыяй «Савецкая Беларусь» тут здымаўся фільм рэжысёра М. Чароты «Лясная быль». Яго стваральнікі палічылі, што лепшага месца, чым Прылукі, для здымкаў фільма ім не знайсці.



Ў часы нямецка-фашысцкай акупацыі ў сядзібе была летняя рэзідэнцыя гаўляйтэра Беларусі Ку-бэ. У 1944 г. падчас адступлення немцы палац спалілі, парк часткова быў высечаны. Пасля вайны ўлады збіраліся разбурыць тое, што засталося ад палаца. Але знайшліся неабыякавыя да гістарычнай спадчыны людзі. Энергічная жанчына Цыля Самойлаўна Гандэльман звярталася ў розныя інстанцыі, ездзіла нават у Маскву, дамагаючыся, каб палац аднавілі. І перамагла: у канцы 50 – пачатку 60-х гг. мінулага стагоддзя былі выдзелены сродкі і палац аднавілі. Будынак быў перададзены Мінскай даследчай станцыі па барацьбе з каларадскім жуком, супрацоўнікі якога шмат папрацавалі, каб прывесці ў належны стан парк. Сёння ў палацы размяшчаецца Беларускі навукова-даследчы інстытут аховы раслін, які падтрымлівае ў добрым стане будынак. У яго сценах быў створаны і існуе музей Чапскіх. Грамадскі савет інстытута з'явіўся асновай гісторыка-краязнаўчага аб'яднання «Прылуцкая спадчына», якое ў 2005 г. атрымала ганаровае найменне «народнае аматарскае аб'яднанне».

Аб усім гэтым і шмат яшчэ аб чым іншым, што тычыцца Прылукаў, нам, удзельнікам экскурсіі, паведаміла кіраўнік аб'яднання «Прылуцкая спадчына», цудоўная жанчына, кандыдат біялагічных навук Інэса Трафімаўна Кароль. Шмат чаго іншага мы даведаліся і ад актыўнага сябра «Прылуцкай спадчыны» таленавітага архітэктара, мастака Алега Ігаравіча Маслiева. Вялікі дзякуй Вам, паважаныя Інэса Трафімаўна і Алег Ігаравіч!

Але, як мною заўважана, час ідзе, парк і пабудовы ў ім патрабуюць тэрміновай рэстаўрацыі. А між іншым, як кажуць дасведчаныя людзі, у пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў Беларусь прыязджаў сын Юрыя Чапскага – Юзаф. На свае сродкі ён збіраўся прывесці ў належны выгляд, рэканструяваць Станькаўскую і Прылуцкую сядзібы. Адзіная ў яго была ўмова – тры разы на тыдзень прымаць турыстаў будзе ён. Улады не згадзіліся, маўляў, самі ўсё зробім. У 1993 г. Юзаф Чапскі памёр, і сумнеўна, што яго дзеці і ўнукі захочуць укладваць грошы ў рэканструкцыю сядзіб.

*Што тычыцца «Прылуцкай спадчыны», дык у сваім артыкуле хацеў бы выказаць ад імя чытачоў газеты вялікую падзяку неабыякавым да гістарычнага мінулага сябрам аб'яднання: гісторыкам Л. Акаловічу, А. Валахановічу, С. Жданавай, экскурсаводу-краязнаўцу І. Гатальскаму, А. Маслiеву і кіраўніку І. Кароль за іх бескарыслівую плённую працу. Вялікі дзякуй таксама супрацоўнікам Інстытута аховы раслін, сярод якіх кандыдаты і дактары навук. Пакуль ёсць на зямлі такія людзі – жыве і будзе жыць Беларусь. Пажадана, каб ва ўсіх гэтых карысных справах была большая падтрымка ўладаў. І на заканчэнне хачу звярнуцца да краязнаўцаў, гісторыкаў, студэнтаў, школьнікаў, усіх, каму неабыякава гістарычнае мінулае нашай Бацькаўшчыны, хто любіць свой край: прыязджайце ў Прылукі, што побач з Мінскам. Тут вас ветліва сустрэнуць, усё пакажуць і раскажуць цудоўныя людзі – сябры народнага аматарскага аб'яднання «Прылуцкая спадчына».*

**Лявон ЦЕЛЕШ,**
**г. Дзяржынск**



# Крыжаванка «Оршы – 940 гадоў»

**Уздоўж**

**7**. Паручнік, кіраўнік паўстанцкага атрада ў Аршанскім павеце ў часы нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863–1864 гг. **8**. Знакаміты беларускі празаік, паэт, кінасцэнарыст. Яго імя носіць школа ў Оршы, у горадзе створаны яго музей. Ураджэнец г. Оршы. **10**. Жаўранак прылятае на прагаліну, ... на прагаліну, жораў з цяплом, ластаўка з лістом (прык.). **11**. Вёска ў Аршанскім раёне, каля якой у час авіякатастрофы загінуў двойчы Герой Савецкага Саюза С. Грыцавец. **12**. Нізкі жаночы або дзіцячы голас. **15**. Гарадскі пасёлак у Аршанскім раёне, які ўпершыню ў летапісе згадваецца ў 1059 г. Яго часта наведваў Я. Купала. **18**. Знакаміты разьбяр па дрэве XVII ст., які сакрэты майстэрства спасцігу Куцеінскім манастыры. **19**. Вялікі князь літоўскі, у часы княжання якога Орша ўвайшла ў склад ВКЛ. **20**. Шост, да якога прымацоўваецца калодзежнае вядро. **21**. Рака ў Аршанскім раёне, правы прыток Дняпра. **24**. Рэйкавая дарога, дзякуючы якой г. Орша з'яўляецца адным з буйнейшых на Беларусі транспартным вузлом. **26**. Акцёр, народны артыст Беларусі. У 1967–1999 гг. – у Беларускім тэатры імя Я. Коласа. Ураджэнец г. Оршы. **27**. Тое, што і куфар. **30**. Калі запяець ..., тады сей боб (прык.). **32**. Знакаміты рускі паэт, які напісаў паэму «Баярын Орша». **33**. Расійскі цар, які ў пачатку XVIII ст. наведаў Оршу і Копысь. **34**. Краязнаўчы зборнік, які выдаваўся ў Оршы ў 20-я гады XX ст. **35**. Сусветна вядомы спартсмен, шматразовы чэмпіён свету па хуткасным бегу на каньках. Ураджэнец г. Оршы.

**Упоперак**

**1**. Гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, у які ўваходзіць Аршаншчына. **2**. Група коннікаў на прагулцы. **3**. Горад на Брэстчыне, якому сёлета спаўняецца 910 гадоў. **4**. Пра таго, хто нясе з сабой асвету, свабоду і інш. **5**. Вёска ў Аршанскім раёне, дзе ў 1820 г. была пабудавана сядзіба. Цяпер гэта помнік сядзібна-паркавай архітэктуры. **6**. Сельскагаспадарчая ... Назва смалянскага саўгаса-тэхнікума ў пачатку XX ст. **9**. Прадстаўнік народаў Скандынавіі «эпохі вікінгаў». **13**. Князь, гетман ВКЛ, войска якога ў колькасці 30 тысяч ваяроў у бітве пад Оршай у 1514 г. перамагло 80-тысячнае войска Маскоўскай дзяржавы. **14**. Вядомы военачальнік, маршал, двойчы Герой Савецкага Саюза. У 1930–1932 гг. вучыўся ў Аршанскім педагагічным тэхнікуме. **16**. «... і лётчык». Вядомы верш Я. Купалы, напісаны ім у 1935 г. на дачы ў Ляўках, паблізу г.п. Копысі. **17**. Герой Савецкага Саюза. Вызначыўся ў 1944 г. у баях за вызваленне г. Оршы. Ганаровы грамадзянін гэтага горада. **22**. Месца захавання рэштак старажытнага паселішча. Выяўлена археолагамі каля в. Чаркасава паблізу Оршы. **23**. Гісторык, з 1928 г. – прэзідэнт АН БССР, акадэмік. Лічыў, што Орша яшчэ ў 850-х гадах была цэнтрам удзельнага княства. **25**. Буйны почырк старажытнабеларускіх рукапісаў, у якіх апісваюцца гістарычныя падзеі на Аршаншчыне. **28**. «... песні». Верш Я. Купалы, напісаны ім у 1906 г. **29**. Прозвішча аршанскага баярына XIV ст., які быў далёкім продкам першага расійскага цара з дынастыі Раманавых. **31**. ... – бацька, а ноч – маці (прык.). **33**. Камяністы папярочны выступ на дне ракі, які замінае суднаходству. Сустракаецца ў рэчышчы Дняпра ў наваколлі Оршы.



*Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск*



*Зімовы лес, зімовы сад...*

*Фота Міколы ПІВАВАРА*

# Заўсёды на варце!

У беларускай сталіцы штогод гінуць у пажарах дзесяткі людзей. Змяніць сітуацыю да лепшага, як сцвярджаюць спецыялісты МНС, дапаможа ўстаноўка ў жылых памяшканнях аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў, таму што кожны трэці пажар у горадзе адбываецца менавіта ў нашых кватэрах. Прадметы бытавой хіміі, сінтэтыка, палімеры, якія прымяняюцца зараз, падчас гарэння ў значнай колькасці выдзяляюць надзвычай таксічныя рэчывы. Варта ведаць, што з кожных дзесяці загінулых у пажары сямёра памірае ад атручвання ўгарным газам альбо ядавітым дымам, часцей за ўсё ў сне. Асабліва пакутуюць адзінокія састарэлыя людзі, якім няма каму своечасова дапамагчы.

Адна з прычын – адсутнасць аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка. Гэты невялікі прыбор, які рэкамендуецца размяшчаць на стале, прызначаны для выяўлення ўзгарання ў і здольны зберагчы жыцці гаспадароў і іх жыллё ад вогненнай бяды, апавясціўшы аб раптоўным пажары гучным сігналам. Нездарма швейцарцы сябруюць з такімі "разумнымі" прыборамі: у іх устаноўлены ў жылых дамах апавяшчальнікі – гэта звычайная норма. Людзі, якія карыстаюцца іх дапамогай, упэўнены ў сваёй абароненасці. І ў нашай краіне на сённяшні дзень ужо налічваюцца тысячы выпадкаў, калі менавіта аўтаномны пажарны апавяшчальнік своечасова папярэдзіў аб надыходзячай бядзе і не дапусціў трагедыі.

*Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ, інспектар ЦРАНС*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВЯЛІКАЯ АЙЧЫННАЯ ВАЙНА** 1941–1945 гг. – вайна народаў былога СССР супраць фашысцкай Германіі і яе саюзнікаў і, як пазначана ў розных энцыклапедыях, у тым ліку і беларускіх, састаўная частка Другой сусветнай вайны 1939–1945 гг. Баявыя дзеянні пачаліся 22 чэрвеня 1941 г. нападам германскага вермахта на СССР – дэсантам, бамбаваннем, артылерыйскімі, мінамётнымі, кулямётна-аўтаматнымі абстрэламі. Працягвалася амаль 4 гады, вызначылася велізарнымі людскімі і матэрыяльнымі ахвярамі і стратамі. У прыватнасці, у Беларусі пад час яе ў розных стасунках і варунках загінула каля 3 мільёнаў людзей. Гэта генетычна паўплывала на тое, што і сёння ў Беларусі няма таго людскога ліку, які меўся да вайны.

Шаноўны чытач «КГ», мы, супрацоўнікі выдання, усе нізка схіляем галаву перад тымі, каму тая вайна прынесла смерць, раны, боль, слёзы, ваенныя і пасляваенныя разборкі; мы аддаем глыбокую пашану людзям цярплівым, мужным, гераічным, хто на розных франтах, у падполлі і тыле, у акупацыі аддаў сваё жыццё ці ў многім ахвяраваў яго дзеля выратавання ад чалавеканенавіснай фашысцкай ідэалогіі; ушаноўвалі і будзем ушаноўваць годных і высакародных людзей таго часу, але ў гэтай рубрыцы не здолеем асвятліць усе тыя нюансы. Тым больш, што многае ўжо шырока даследавана, многае яшчэ будзе вывучацца па-новаму. Пра гэта пісалі, пішуць і будуць пісаць нам удзельнікі, сведкі тых падзей, а таксама іхнія нашчадкі – нашы з вамі сучаснікі. Адпаведна, тэма для нас гэта вельмі балючая, святая, і мы



***Клятва салдата-беларуса пры ўступленні на беларускую зямлю (ст. Крынкі Лёзненскага раёна, кастрычнік 1943 г.)***

чакаем ад нашых аўтараў, чытачоў новых, хоць і невялічкіх, допісаў пра трагедыі і гераізм таго часу, з якога наш народ у ліку іншых народаў выйшаў скалечаны, але і непераможны!

**ВЯЛІКАЯ БЕЛАРУСКАЯ РАДА (ВБР)** – каардынацыйны цэнтр беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў кастрычніку-снежні 1917 г. Утворана ў Мінску на 2-й сесіі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый (28 кастрычніка – 6 лістапада 1917). Яна абрала пастаянна дзеючым сваім органам выканаўчы камітэт з 24 чалавек. У яго ўваходзілі А. Прушынскі (Алесь Гарун), Л. Сівіцкая (Зоська Верас), А. Смоліч і іншыя вядомыя беларускія дзеячы таго часу. Улічваючы негатыўныя адносіны і Часовага ўрада да беларускага пытання, ВБР вылучала на той час сціплыя нацыянальна-дзяржаўныя патрабаванні – аўтаномію ў складзе Расійскай федэрацыі, шырокае развіццё беларускай мовы і культуры, сістэмы беларускай адукацыі. Разглядвала сябе як зародак кіраўніцтва беларускай аўтаноміі. Адчуваючы непрыйманне, жорсткія расправы з імі антыбеларусаў у Мінску і Часовага ўрада ў Петраградзе, ВБР далучылася да ідэі склікаць напрыканцы 1917 г. у Мінску Усебеларускі з'езд і на ім вылучыць пытанне незалежнасці Беларусі.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 15.02.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 131
Тыраж 1450 асобнікаў.